**Іна Соркіна**
(Гародня)

# Міхалова ў дакументах архіўных фондаў губернскіх адміністрацый (другая палова XIX — пачатак XX ст.)

Аднаўленне аб’ектыўнай гістарычнай панарамы жыцця лакальных супольнасцей належыць да ліку адной з актуальных і важных задач гістарычнай навукі. Значны комплекс крыніц па шырокім спектры праблем рэгіянальнай гісторыі, якія дазваляюць выявіць на лакальным узроўні дзеянне працэсаў, што вызначаюць развіццё грамадства на макраўзроўні, захоўваецца ў фондах губернскіх адміністрацый Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (далей: НГАБ) у Гродне і Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні (далей: ЛДГА).

Неабходна адзначыць, што ў архіўных дакументах, якія нам трапіліся ў ЛДГА і НГАБ у Гродне, Міхалова-Нязбудка называлася то калоніяй, то мястэчкам. Не было аднастайнасці і ў самой назве паселішча сярод сустрэтых варыянтаў: Міхалова-Нязбудка, Нязбудка-Міхалова, Нязбудка, Міхалова, Міхайлава.

Адным з найбольш інфарматыўных фондаў ЛДГА з’яўляецца „Канцылярыя Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара” (ф. 378, 151272 адзінкі захавання). Дакументы гэтага фонду размеркаваныя на агульны і палітычны аддзелы. У комплексе яны дазваляюць даследаваць сацыяльнае, эканамічнае, палітычнае, культурнае развіццё, а таксама паўсядзённае жыццё насельніцтва заходняга рэгіёна Беларусі ў 1794-1912 гг.

Звесткі пра Міхалова, якія выяўленыя ў гэтым фондзе, утрымліваюцца ў дакуменце пад назвай „Справа па цыркуляру МУС аб паселішчах губерняў Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, якія не належаць да ліку гарадоў і мястэчак, у якіх дазволена пражыванне яўрэяў. 1902-1907 гг.”[1]

Патлумачым вытокі разгляду падобных пытанняў. Адным з напрамкаў абмежавальнай палітыкі расійскіх улад адносна яўрэяў было высяленне іх з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі. Гэтую бясконцую эпапею з перасяленнем яўрэйскага насельніцтва ў гарадскія паселішчы выклікала барацьба расійскіх улад з „піцейным” промыслам яўрэяў. Забарона яўрэям жыхарства і піцейнага промыслу ў сёлах і вёсках беларускага краю практыкавалася з 1782 г. па 1917 г., на працягу амаль

[1] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей: ЛДГА), ф. 378, агульны аддзел, 1902, адз. зах. 227.

усяго перыяду Расійскай імперыі (за выключэннем часу ад 18 сакавіка 1863 г. (пры Аляксандры II былі ліквідаваны ўсе абмежаванні адносна жыхарства і промыслаў яўрэяў па-за гарадамі і мястэчкамі) па 3 мая 1882 г. (аднаўленне забараняльнай палітыкі пры Аляксандры III).

У 1902 г. адносна паселішчаў, якія мелі гандлёва-прамысловы характар і ў якіх жылі яўрэі, разглядалася пытанне аб пераводзе іх у разрад гарадскіх. Збіраліся звесткі аб іх насельніцтве, гандлёва-прамысловым патэнцыяле. Паводле ведамасці, складзенай у пачатку кастрычніка 1902 г., у Гродзенскай губерні такіх прэтэндэнтаў на гарадскі статус было 13: Парэчча ў Гродзенскім уездзе; Міхалова-Нязбудка, Старасельцы і Супрасль у Беластоцкім уездзе; Гарадзіск у Бельскім уездзе; Руда-Чарняны, Маларыта, Аляксандраўская калонія ў Брэсцкім уездзе; Блудзень, Лінева, Цеўлі Пружанскага ўезда; Альбярцін Слонімскага і Жабінка Кобрынскага ўезда. Наконт калоніі Міхалова-Нязбудка паведамляліся наступныя звесткі. Калонія знаходзілася пры маёнтку такой жа назвы, у 9 вярстах ад чыгуначнай станцыі Валілы, у 33 вярстах ад Беластока. Час і прычына ўтварэння паселішча — 1840 г., заснаванне фабрык і заводаў. Паселішча ўзнікла на зямлі ўладальніцы маёнтка Эббы Энгельгардт. Плошча пад сядзібамі складала каля 88 дзесяцін. Землі агульнага карыстання — рыначная плошча, 5 вуліц і 2 завулкі. Колькасць насельніцтва — 3 209 чалавек, з іх 1 152 яўрэі (каля 36%). Сярэдні прырост насельніцтва за апошнія тры гады — каля 3% у год. Заняткі насельніцтва — праца на фабрыках і заводах, гандаль. У Міхалове налічвалася 106 гандлёва-прамысловых устаноў, 11 мураваных і 303 драўляных будынкаў. Памер гандлёвых абаротаў за апошнія 3 гады — 1 325 418 руб. (змяншэнне абаротаў тлумачылася банкруцтвамі). Паводле памераў гандлёвых абаротаў Міхалова займала 3-е месца сярод 13 прэтэндэнтаў на гарадскі статус (пасля Альбярціна і Супрасля). У паселішчы былі валаснное праўленне, лютаранская кірха, лютаранскае вучылішча, царкоўна-прыходская школа, паштовае аддзяленне[2].

У лісце ад 30 лістапада 1902 г., накіраваным з Міністэрства ўнутраных спраў віленскаму генерал-губернатару, калонія Міхалова-Нязбудка, як і іншыя паселішчы прамыслова-гандлёвай значнасці, выключалася з ліку населеных пунктаў, на якіх распаўсюджваўся абмежавальны для яўрэяў закон ад 3 мая 1882 г. (гэта значыць, што яўрэям дазволена тут свабоднае жыхарства).

Нагадаем, што „Часовыя правілы”, зацверджаныя Аляксандрам III 3 мая 1882 г., праіснаваўшыя да 1917 г., забаранілі яўрэям зноў сяліцца, набываць нерухомасць і арандаваць зямлю ў сельскай мясцовасці, а таксама гандляваць па нядзелях і хрысціянскіх святах.

[2] ЛДГА, ф. 378, агульны аддзел, 1902, адз. зах. 227, арк. 4 адв.-5.

Аб тым, што да прыняцця рашэння аб свабодным пражыванні яўрэяў у калоніі Міхалова, тыя з іх, хто пасяліўся тут пасля 3 мая 1882 г., падлягалі высяленню сведчаць дакументы з НГАБ у Гродне. Так, у 1884 г. былі складзены спісы яўрэяў Гродзенскай губерні, якія падлягалі высяленню, як незаконна пражываючыя па-за гарадамі і мястэчкамі. У Беластоцкім уездзе такіх аказалася 28 чалавек, у тым ліку ў Нязбудцы — 6 чалавек: Тодэль Шохет, Рыфка Гольфман, Моўша Эпштэйн, Ошер Ломолн, Мордфель Петрыцер, Абрам Шкмар[3].

Па звестках на 1885 г. колькасць яўрэйскіх сем'яў, якія пражывалі ў калоніі Нязбудка да закону 3 мая 1882 г. складала 83, паводле стану на 22 чэрвеня 1885 г. — 87. Значыць высяленню падлягалі 4 сям'і[4].

Яўрэі Міхалова не ўтваралі самастойнай абшчыны, а належалі да Гарадоцкай грамады, якая па звестках 1867 г. мела 1 сінагогу і 2 малітоўныя школы, рабінам для ўсіх яўрэяў Беластоцкага ўезда быў Меер Саламонавіч Маркус, памочнікам рабіна ў Гарадку быў Шмуель Мошкавіч Рабіновіч; могілкі Гарадка былі падзеленыя на 3 разрады, пахаванне ў 1-м разрадзе каштавала ад 1руб. 50 кап., у 2-м — 60 кап., у 3-м — бясплатна[5].

Вельмі цікавую інфармацыю пра міхалоўскіх яўрэяў утрымлівае дакумент НГАБ у Гродне пад назвай „Справа аб заснаванні ў калоніі Міхалова-Нізбудка пазыка-ашчаднага таварыства. 1902-1904 г."[6] Жыхары Міхалова хадайнічалі аб зацвярджэнні ўстава пазыка-ашчаднага таварыства. З рапарта Беластоцкага ўязнога спраўніка даведваемся, што заснавальнікамі таварыства з'яўляюцца выключна яўрэі, якія належаць да гандлёвага і прамысловага класа, і што яны не будуць прымаць у склад таварыства хрысціян. 2/3 насельніцтва калоніі Нязбудка-Міхалова — хрысціяне (лютаране і католікі) і 1/3 — яўрэі. У апошні час прамысловая дзейнасць (фабрычная і гандлёвая) пераходзіць у рукі яўрэяў. На думку Беластоцкага ўязнога спраўніка, у заснаванні дадзенага таварыства, выключна яўрэйскага, можна ўбачыць і другую задачу, акрамя прамой (дапамога бедным), — цалкам вырваць гандаль і прамысловасць з рук хрысціян і дамагчыся іх абсалютнага „порабощения"[7].

Беластоцкі ўязны спраўнік у студзені 1903 г. сабраў звесткі аб „паводзінах, ладзе жыцця, норавах, судзімасці і ўвогуле аб асобах заснавальнікаў таварыстваў". Гэтая даволі цікавая інфармацыя дазваляе ўявіць не толькі гаспадарчыя заняткі міхалоўскіх яўрэяў, але і характа-

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей: НГАБ у Гродне), ф. 1, воп. 8, адз. зах. 1202, арк. 12.

[4] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 8, адз. зах. 1398, арк. 97.

[5] ЛДГА, ф. 378, агульны аддзел, 1867 г., адз. зах. 1728, арк. 327, 328 адв.

[6] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 18, адз. зах. 848.

[7] Там жа, арк. 4.

рыстыкі іх асобаў з пункту гледжання мясцовага чыноўніка:

- Ліўшыц Рафаіль Калманаў, 30 год, на працягу апошніх 4-х год адчыняў прамысловыя ўстановы на сваё, сваёй жонкі і свайго шурына імя, кожны раз абвяшчаў сябе банкрутам з мэтаю нажывы. Маёмасці рухомай і нерухомай не мае. Пад судом і следствам не быў. Да адказнасці ў міравым і камерцыйным судзе не прыцягваўся.
- Шатлендзер Моўша Айзікаў, 70 год. Займаецца мылаварнай прамысловасцю, з якой мае заробак да 3-х руб. у тыдзень. Мае нерухомую маёмасць у калоніі Нязбудка-Міхайлава да 1 000 руб. Лад жыцця сціплы. Вольны час ад працы праводзіць у малітве. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном" заўважаны не быў.
- Шатлендзер Мендэль Моўшавіч, 40 год. Мае дробязную краму з таварам да 300 руб. Нерухомай уласнасці не мае. Жыве ў доме бацькі. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном" заўважаны не быў.
- Гольдфайн Меер Мордкаў, 50 год. Маёмасці рухомай і нерухомай не мае. Знаходзіцца на службе ў лесапрамыслоўцаў Гепнера і Заблудскага. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном" заўважаны не быў.
- Кругман Мордка Лейзер Гешалеў. Маёмасці рухомай і нерухомай не мае. Ткач на суконнай фабрыцы. Пры ўсіх забастоўках рабочых на фабрыках у калоніі з'яўляецца галоўным кіраўніком. Пад судом і следствам не быў. Паводзінаў „неодобрительных".
- Рабіновіч Лейзер Шліомаў, 38 год. Мае нерухомую маёмасць у калоніі Нязбудка-Міхайлава — 3 драўляныя дамы, коштам да 3 000 руб. Перадаў сваю маёмасць на імя сваёй жонкі з мэтаю пазбегнуць вопісу і продажу за даўгі. Тры гады таму меў ткацкую ўстанову на 4 станкі, абанкруціўся з мэтаю нажывы. У цяперашні час зноў адчыніў такую ж установу ў доме сваёй жонкі, якая прыносіць валавога прыбытку да 500 руб. у год. З'яўляецца хадаком па яўрэйскіх справах.
- Мікляцкі Моўша Лейбаў, 48 год. Да ўводу продажу казённых спіртных напояў займаўся іх беспатэнтным продажам, а таксама скупляў крадзеныя рэчы. Цяпер мае ў калоніі Нязбудка-Міхайлава дробязную краму з таварам да 250 руб. Тры гады таму абанкруціўся, перад гэтым перадаў свой дом на імя жонкі. Пад судом і следствам не быў. „Поведения неодобрительного и нравственных качеств самых дурных".
- Рубін Вольф Моўшаў, 46 год. Нерухомай маёмасці не мае. Некалькі год таму меў у доме сваёй жонкі ткацкія станкі, але вымушаны быў закрыць, бо неаднаразова з мэтай нажывы банкруціўся. Ця-

пер зноў адчыніў ткацкую ўстанову ў доме сваёй жонкі і на яе імя.

- Цытрон Лейба Шнэераў, 36 год. Нерухомай маёмасці не мае. Дзякуючы неаднаразоваму банкруцтву склаў сабе капітал да 10 000 руб. Пад судом быў за продаж крадзенай пражы. „Поведения неодобрительного и нравственных качеств самых дурных”.
- Фрыдман Нэроіль Мeераў, 30 год. Нерухомай маёмасці не мае. У цяперашні час пасля неаднаразовага банкруцтва адчыніў ткацкую ўстанову на 4 стана, якая прыносіць яму валавога прыбытку да 400 руб. у год. Пад судом і следствам не быў. „Поведения неодобрительного и нравственности весьма посредственной”.
- Юшынскі Меер Шмуйлаў, 29 год. Нерухомай маёмасці не мае. Утрымлівае на сваё імя ткацкую ўстанову, якая прыносіць валавога прыбытку да 500 руб. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном” заўважаны не быў.
- Есяноўскі Іосіф Іцкаў, 35 год. Нерухомай маёмасці не мае. Утрымлівае на сваё імя 4 ткацкія ручныя станкі, мае краму з таварам да 200 руб. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном” заўважаны не быў. „Поведения одобрительного”.
- Каплан Лейба Шымшалеў, 28 год. Нерухомай маёмасці не мае. Утрымлівае на сваё імя ў доме бацькі 6 ткацкіх ручных станкоў, якія прыносяць прыбытак да 800 руб. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном” заўважаны не быў. „Поведения и нравственных качеств одобрительных”.
- Каплан Гершон Нахманавіч, 50 год. У Нязбудцы-Міхайлаве мае драўляны дом коштам да 1 500 руб. Займаецца фактарствам. Некалькі год таму займаўся гандлем, абанкруціўся з мэтаю нажывы. Пад судом і следствам не быў. „Поведения и нравственности не одобрительных”.
- Гродзенчык Лейба Моўшаў, 40 год. Нерухомай маёмасці не мае. Займаецца продажам дроў, жонка яго мае дробязную краму з таварам да 500 руб. Пад судом і следствам не быў. „Поведения и нравственных качеств одобрительных”.
- Фрыдман Абрам Янкелеў, 45 год. Нерухомай маёмасці не мае. Займаецца перакупам хлеба ў зерні і муцэ і мае краму ў доме свайго цесця. Пад судом і следствам не быў і ні ў чым „предосудительном” заўважаны не быў. „Поведения и нравственных качеств одобрительных”.
- Эфрон Хаім Лейбаў, 32 гады. Нерухомай маёмасці не мае. Займаецца продажам дроў і арандуе цагляны завод у барона Энгельгорда, уладальніка маёнтка Нязбудка-Міхайлава. Пад судом і следствам не быў. „Поведения и нравственных качеств неодобрительных”.
- Калішынскі Зыскінд, 40 год. Нерухомай маёмасці не мае. Загадвае

мануфактурнаю крамаю (коштам да 1 500 руб.). З-за неаднаразовага банкруцтва мануфактурную краму запісвае на імя сястры сваёй жонкі. Пад судом і следствам не быў. „Поведения и нравственных качеств неодобрительных".

- Глікфельд Менахім Іосель. Нерухомай маёмасці не мае. З'яўляецца прыказчыкам у сваіх братоў на ткацкай установе. Пад судом і следствам не быў. „Поведения и нравственных качеств одобрительных".
- Урыноўскі Беніямін Гдалеў. Нерухомай маёмасці не мае. Займаецца перапродажам сыравіны для ткацкіх устаноў. Неаднаразова банкруціўся з мэтаю нажывы. Быў пад следствам і судом за выдачу векселя з фальшывымі подпісамі. „Поведения и нравственных качеств самых неодобрительных"[8].

Хрысціяне калоніі патлумачылі, чаму яны не будуць уступаць у таварыства, якое хочуць заснаваць яўрэі: „(...) в числе лиц еврейского вероисповедания, возбудивших ходатайство об учреждении ссудосберегательного товарищества, нет честных и благонадежных личностей"[9]. Гродзенскі губернатар у лісце да віленскага генерал-губернатара выказаўся супраць дазволу яўрэям заснаваць пазыка-ашчадную ўстанову. У выніку дазволілі заснаваць такое таварыства толькі хрысціянам (1905 г.). Аб гэтым хадайнічалі 25 чалавек, з якіх 23 — немцы-лютаране, якія займаліся суконна-фабрычнай прамысловасцю, 2 — каталікі (польскага паходжання): урач Чэслаў Завіцкі і аптэкар Апалінарый Стрыцкі. Адзначалася, што „все просители хорошего поведения, в нравственном и политическом отношении благонадежны"[10].

У дадзеным дакуменце колькасць насельніцтва Міхалова ў 1906 г. падавалася ў памеры 3 125 чалавек, у 1907 г. — каля 5 000 чалавек[11].

Павялічвалася не толькі колькасць насельніцтва Міхалова, але і разнастайнасць яго складу. Вызваленне сялян з-пад прыгону прывяло да наплыву ў Міхалова польскага і беларускага насельніцтва з падляшскіх вёсак. Міхалова стала шматнацыянальным асяродкам. Па звестках на 1890 г. у Міхалове налічвалася каля 3 000 чал., з іх каля 1 000 немцаў (каля 33,3%), 980 яўрэяў (каля 32,7%), 654 беларусы (21,8%), 376 палякаў (12,5%)[12]. Па канфесійнай структуры насельніцтва Міхалова складалася з 4-х груп: лютаране, іудзеі, праваслаўныя, каталікі.

Выяўленыя намі архіўныя дакументы ўтрымліваюць фрагментарныя звесткі аб дэмаграфічных працэсах у Міхалове. Напрыклад, захаваліся

[8] Там жа, арк. 7-11.
[9] Там жа, арк. 14.
[10] Там жа, арк. 15 адв.
[11] Там жа, арк. без нумара
[12] L. Nos, *Monografia gminy Michałowo*, Michałowo 2009, s. 170.

ведамасці праваслаўнага святара Уладзіміра Ступніцкага за 1912 г., з якіх вынікае, што ў гэтым годзе ў Нязбудка-Міхайлаўскім прыходзе нарадзіліся 44 хлопцы і 37 дзяўчат, у тым ліку 2 незаконнанароджаныя. Колькасць шлюбаў склала 21, у тым ліку халастых з дзявіцамі — 18, удовых з дзявіцамі — 3. Памерла 38 чалавек, у тым ліку 21 — дзеці да 1 года[13].

Шмат дакументаў фондаў губернскай адміністрацыі адлюстроўвае развіццё прамысловасці Міхалова. Так, у 1870 г. каланіст Вільгельм Фрэймарк падаў у Дэпартамент гандлю і мануфактур прашэнне аб зацвярджэнні клеймаў для вырабаў яго суконнай фабрыкі, на якой прадугледжваўся выраб сукна і трыко розных колераў, як летніх, так і зімовых[14]. З такімі ж прашэннямі звярталіся ў Пецярбург і каланісты Фердынанд Глогер[15] і Хонель Канель[16]. Акт аб канчатковым уладкаванні фабрыкі Канеля, складзены 20 лістапада 1872 г., сведчыў аб тым, што фабрыка купца Хонеля Канеля ў м. Міхалова месціцца ў арандаваных дамах Адольфа Швембера, на ёй налічваецца 20 станкоў, на якіх вырабляецца суконнае трыко, а таксама дзейнічаюць розныя паравыя машыны[17]. Суконна-картовая фабрыка належала каланісту Юліусу Крабісу. У 1876 г. колькасць станкоў на ёй складала 4, вырабаў — 4 000, на суму 8 000 руб., розных машын — 20, майстар — 1, рабочых — 20. Месцілася фабрыка Крабіса ў двухпавярховым драўляным доме[18]. Яшчэ адной падобнай суконна-картовай фабрыкай валодаў каланіст Генрых Ірганг. У 1876 г. колькасць станкоў на ёй складала 5, вырабаў — 9 000, на суму 18 000 руб., розных машын — 20, майстар — сам фабрыкант, рабочых — 20[19]. Сыравіна (воўна авечак, фарбы, драўляны алей, вада) для абедзьвюх фабрык набывалася ў Беластоку, там жа і збывалася прадукцыя.

Са справаздачы Беластоцкага ўязнога спраўніка губернатару ад 13 чэрвеня 1886 г. вынікае, што ва ўездзе было 45 фабрык, што належалі замежным падданым. Акрамя таго замежнікі пражывалі пры 65 фаб-

[13] НГАБ у Гродне, ф. 14, воп. 2, адз. зах. 22, „Ведамасці ўязных спраўнікаў, святароў аб колькасці яўрэяў, сінагог, малітоўных школ, вучылішчаў, народжаных, узяўшых шлюб і памерлых у г. Беластоку і Беластоцкім у. за 1888, 1901, 1912 гг.", арк. 85-87.

[14] Там жа, ф. 1, воп. 22, адз. зах. 1887, „Справа аб зацвярджэнні клеймаў для суконнай фабрыкі Фрэймарк у калоніі Міхалова. 1870 г.", арк. 1, 3.

[15] Там жа, адз. зах. 1888, „Справа аб зацвярджэнні клеймаў для суконнай фабрыкі Глогера ў Міхалове. 1870 г."

[16] Там жа, воп. 23, адз. зах. 181, „Справа аб устанаўленні завяршэння ўладкавання фабрыкі Канеля. 1872 г."

[17] Там жа, арк. 4.

[18] Там жа, ф. 14, воп. 1, адз. зах. 375, „Ведамасці ўладальнікаў (...) суконна-картовых фабрык кал. Міхалова Беластоцкага ўезда за 1876 г.", арк. 14-15.

[19] Там жа, арк. 16-17.

рыках, іх колькасць складала 439 чалавек (у тым ліку 29 майстроў, 216 ткачоў, 172 простых рабочых). Пры гэтых фабрыках было расійскіх падданых 2 458 чалавек. Усяго ў Беластоцкім уездзе было 532 сямей замежнікаў, 1 839 душ (у тым ліку 45 фабрыкантаў, 439 служачых на фабрыках). Міхалова па прамысловай значнасці было на 3-м месцы ва ўездзе (пасля маёнткаў Супрасль і Дайліды). Фабрычная прамысловасць пачалася тут з 1845 г. Да 1886 г. адчынена замежнікамі 32 фабрыкі. Упраўляючым маёнткам Міхайлава-Нязбудка на гэты час быў генерал-ад'ютант Мінквіц. Беластоцкі спраўнік паведамляў, што замежнікі не маюць ніякага ўплыву на мясцовых жыхароў, што лад жыцця фабрыкантаў строгі, правільны. Уладальнікі невялікіх фабрык і рабочыя на святы п'янствуюць, таму рабочыя жывуць бедна. Мясцовыя жыхары на фабрыках працуюць простымі рабочымі. Фабрыканты-замежнікі — гэта асобнае грамадства, яны строга захоўваюць нямецкія звычаі, не ведаюць рускай мовы, як правіла, валодаюць польскай мовай. Паміж сабою і з рабочымі гавораць па-нямецку і па-польску[20].

Дакументы, якія адлюстроўваюць развіццё гандлю ў Гродзенскай губерні, не фіксуюць наяўнасці ў Міхалове кірмашоў і базараў (у Беластоцкім уездзе гандлёвымі асяродкамі выступалі гарады Беласток, Кнышын, Ганёндз, Заблудаў, мястэчкі Хорашч, Ясяноўка, Трасцяны)[21].

Прамысловая прадукцыя Міхалова прадавалася ў Беластоку і іншых гандлёвых цэнтрах рэгіёна. У Міхалове развіваўся стацыянарны гандаль. Пра гэта сведчаць прыведзеныя характарыстыкі міхалоўскіх яўрэяў, з якіх бачна, што многія з іх займаліся крамным гандлем. Гэты тып эканамічнай дзейнасці быў уласцівы і для немцаў-каланістаў. Так, захаваліся звесткі аб страхаванні драўлянай пабудовы каланіста Роберта Аўгуставіча Клемта, пабудаванай для размяшчэння 9 крамаў (кошт пабудовы ацэньваўся ў 4 000 руб., яе застрахавалі на 2 000 руб., акрамя крамаў тут было 9 жылых пакояў). Дадзены дакумент утрымлівае план гэтай пабудовы і ўсяго цэнтра мястэчка з пазначэннем назваў вуліц (Гарадоцкая, Беластоцкая), прозвішчаў уладальнікаў пляцаў вакол рынкавай плошчы (Качаноўскі, Фітцкі, Гофман, Рыхтар)[22].

Жыхары Міхалова, як прамыслоўцы, так і гандляры, былі зацікаўленыя ў развіцці камунікацый. Так, у 1883 г. купцы і фабрыканты мястэчка звярталіся ў Міністэрства фінансаў з хадайніцтвам аб пераня-

[20] Там жа, ф. 1, воп. 8, адз. зах. 1408, „Справа аб звестках пра фабрыкі і заводы, якія належаць замежным паданым. 1885-1887", арк. 31, 33, 34.

[21] ЛДГА, ф. 378., агульны аддзел, 1864 г., адз. зах. 299, „Справа аб таргах, кірмашах і базарах", арк. 68-69.

[22] НГАБ у Гродне, ф. 18, воп. 2, адз. зах. 909, „Справа аб добраахвотным страхаванні нерухомай маёмасці ў калоніі Нязбудка-Міхайлава. 1912-1915 гг.", арк. 4, 5, 7.

сенні паштовай станцыі Беластоцка-Ваўкавыскага тракта з Геранёнаў у Міхалова-Нязбудку[23].

Такім чынам, нават кароткі агляд некаторых матэрыялаў пра Міхалова, знойдзеных у ЛДГА ў Вільні і НГАБ у Гродне паказвае, што ў архівасховішчах шмат цікавых дакументаў, якія праліваюць святло на самыя розныя аспекты гістарычнага развіцця нашых гарадоў і мястэчак. Спадзяюся, што прыведзеная стракатая інфармацыя стане яшчэ некалькімі цаглінкамі пры забудове нашых уяўленняў пра гістарычнае мінулае роднага краю.

**Ina Sorkina** — kandydat nauk historycznych, docent, pracuje w Grodzieńskim Państwowym Uniwersytecie im. Janki Kupały. Zainteresowania badawcze — urbanistyka historyczna. Bada historię miasteczek w Białorusi, autorka monografii *Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.* (Wilno 2010).

[23] ЛДГА, ф. 378, агульны аддзел, 1883 г., адз. зах. 587, „Справа па водзыве Міністра фінансаў па хадайніцтве купцоў і фабрыкантаў м. Міхалова-Нязбудкі аб перанясенні паштовай станцыі Беластоцка-Ваўкавыскага тракта з Геранёнаў у гэтае мястэчка".